Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## КАМУНІКАТ Но.2 (56 ад 1990), Люты, 2001

---

### ДА «ТЫДНЯ ПАМЯЦІ АХВЯР ГЕНАЦЫДУ»

Тыдзень ад 26 сакавіка да 1-га красавіка Урад Антарыя абвесьціў «Тыднем памяці ахвяр генацыду», памяці ахвяр злачынства супраць чалавецтва. Мы, беларускае грамадзтва Канады, будзем ушаноўваць памяць нашых сучасьнікаў і продкаў, што сталіся ахвярай генацыду, ахвярай масавых забойстваў у Беларусі. Будзем мы і пазнаваць гісторыю нашага краю, гісторыю жыцьцяў ахвяр генацыду ў Беларусі. Дзеля мэты пазнаваньня гісторыі Беларусі мы ніжэй цытуем дaслоўна працу **доктара гістарычных навук, прафэсара АНАТОЛЯ ГРЫЦКЕВІЧА:**

## «Зьнішчэньне беларускай гісторыі»

Адной з галоўныух мэтаў панаючай у Савецкім Саюзе камуністычнай партрыі ў галіне гуманітарных навук было поўнае падпарадкаваньне гістарычнай навукі і гісторыкаў камуністычнай ідэалёгіі і партыйнаму дзяржаўнаму кіраўніцтву. Такая палітыка пачала праводзіцца ў Брeларусі ўжо ў 20-х гадох XX стагодзьдзя.

Гістарычная навука ў Савецкай Беларусі ў гэты пэрыяд разьвівалася ва ўмовах станаўленьня нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі. Аднак асаблівасьцьцю беларускай гістарыяграфіі было працяглае панаваньне ў гістарычнай навуцы Брeларусі дзьвюх іншанацыянальных канцэпцый - вялікапольскай і вялікарасейскай, якія абедзьве адмаўлялі сам факт існаваньня беларускага этнасу і яго культуры і разглядалі Беларусь як частку Польшчы, ці адпаведна, Расеі, а беларусаў - галінай польскага ці расейскага народаў.

Ужо ў пачатку XX стагодзьдзя пачалі зьяўляцца першыя навуковыя працы на падставе нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Нацыянальная гістарыяграфічная канцэпцыя распрацоўвалася беларускімі гісторыкамі ў 1920-я гады, у пэрыяд беларусізацыі, калі палітыка камуністычных улад у БССР была яшчэ адносна лібэральнай і ў нацыянальным пытаньні. Аднак і ў тыя гады заставаўся ідэялягічны кантроль за гістарычнай навукай, насаджаўся класавы , марксісцка-ленінскі падыход да пэрыяду ад пачатку XX ст. ды і ранейшых часоў.

Аднак ужо ў пачатку 30-х гадоў пачынаюцца рэпрэсыі супраць нацыянальнух дзеячоў, у тым ліку вядомых беларускіх гісторыкаў, прадстаўнікоў нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Іх працы былі выключаны з навуковага ўжытку і схаваныя ў «спэцыяльныя сховішчы». Імёны рэпрэсаваных гісторыкаў было забаронена згадваць у навуковых працах. Толькі ў дыскусіях дазвалялася жорстка



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

крытыкаваць такіх гісторыкаў, абвінавачваючы іх ва ўсякіх грахох і прыпісваючы ім усе палітычныя абвінавачваньні.

У 30-х гадох у Беларускай ССР былі рэпрэсаваныя Вацлаў Ластоўскі, У. М. Ігнатоўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, У. І. Пічэта, П. В. Горын, С. Ю. Матуляйціс, К. І. Кернажыцкі, А. М. Ляўданскі, і іншыя. У выніку амаль поўнай ліквідацыі навукоўцаў-гісторыкаў у канцы 30-х гадоў у гістарычнай навуцы Савецкай Беларусі манапольнае становішча заняла марксіcцка-ленінская мэтадалёгія, спалучаная з мадэрнізаванай расейскай вялікадзяржаўнай канцэпцыяй. Такі мэтадалягічны сынтэз узмацнеў і канчаткова аформіўся ўжо ў другой палове XX стагодзьдзя. Ён адпавядаў ідэялягічным мэтадам камуністычнай партыі ліквідацыі ў пэрспэктыве нацыянальных адрозьненьняў беларускага этнасу і паглынаньня яго расейскім народам. Спробы адзінкавых гісторыкаў аб'ектыўнай навуковай ацэнкі падзеяў і дзеячоў нацыянальнай гісторыі заканчвал;іся палітычнымі авінавачваньнямі і рэпрэсіямі.

Каманднa-адміністрацыйная сыстэма ў Беларусі зь яе таталітарнай ідэялёгіяй стварыка адпаведную сыстэму гістарычных кадраў, якая да пачатку 90-х гадоў (ды ў значнай ступені і да нашага часу) захавала кадры гісторыкаў з камуністычнай сьвядомасьцьцю. Усё гэта прывяло ў 80-х гадох XX ст. да крызісу ў беларускай гістарычнай навуцы, калі звыш 80 працэнтаў гісторыкаў-навукоўцаў апісвалі гісторыю Беларусі «камуністычнага» пэрыяду.

Асновай для мэтадалёгіі многіх (але ня ўсіх) гісторыкаў стаўся тэзіс Сталіна, што прынцыпы важнейшыя за фактры, калі гэта гісторыку нязручна, трэба абмінаць. Гісторыю трэба было пісаць «як належыць», выкідаючы зь яе праўдзівыя факты. Пры гэтым, што пісаць і як пісаць вызначалі выусокія кіраўнікі ідэалягічнай службы, якія давалі сацыяльны заказ навуковым установвам і кафедрам гісторыі унівэрсытэтаў й інстыутутаў.

У 1948 годзе ў 8-м нумары часопісу «Бальшавік Бел;арусі» былі апублікаваныя «Тэзісы аб аснаўных пытаньнях гісторыі БССР (частка І), у якіх была вызначана схэма палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай гісторыі Беларусі. Гэтая схэма й панавала (зь некаторымі зьмяненьнямі) на працагу некалькіх дзесяцігодзьдзяў. У «Тэзісах» шмат увагі ўдзялаялася барацьбе зь «беларускімі нацыяналістамі» паводке прынцыпу: «З ворагамі не дыскутуюць, ворага б'юць». Таму замест навуковай дыскусіі ў «Тэзісах» прысутнічала звычайная лаянка з адпаведнымі эпітэтамі:«вымыслы»,«фальсыфікатары гісторыі Беларусі», «ілжывыя вымыслы ад пачатку да канца» і г.д. Аўтары «Тэзісаў» прытрымліваліся рэкамэндацыі сталінскіх часоў: «Історыя - это палітіка, опрокінутая в прошлое». На падставе гэтых «Тэзісаў» пазьней выдаваліся акадэміная «Гісторыя Беларускай ССР» трох выданьняў і падручнік па гісторыі БССР для школ (аўтар - Л.С. Абэцэдарскі), які штогод перавыдаваўся. Гэтыя кнігі сталі канопнам савецкай гістарычнай навукі ў Беларускай ССР. Была створана камуністычна-імпэрская і маскоўска-цэнтрысцкая гісторыя Беларусі, ці, паводле верша савецкага паэтыу Сяргея Міхалкова:

Всем ісзвесно, что Земля
Начынается с Крэмля.

Павопдле гэтай маскоўкай імпэрскай канцэпцыі гісторыя Беларусі разглядалася скрозь прызму Расеі, а Беларусь - як правінцыя Расеі. Савецкія

гісторыкі Беларусі стварылі ў 40-50 гадох савецкую канцэпцыю гісторыі Беларусі, шмат у чым заснаваную на меркаваньнях і міфах. Да гэтых савецкіх імпэрскіх міфаў адносіліся: адмаўленьне тысячыгадовай дзяржаўнасьці беларускага народу, пачынаючы з Полацкага княства, разгляд Вялікага княства Літоўскага і Рускага як толькі дзяржавы літоўскіх фэадалаў (якой яна сапраўды не была), спрадвечная , нейкая іманэнтная цяга і нават барацьба беларускага народу за ўзьядналньне з Маскоўскім Вялікім княствам, а потым з Расейскім і Расейскай імпэрыяй, станоўчая для беларускага народу роля захопу Беларусі Расейскай імпэрыяй у канцы XVIII ст., сумесная барацьба беларускіх і расейскіх рэвалюцыянераў супраць царызму і г.д. Сюды можна дадаць ненавукопвы падыход да гісторыі рэлігійных стасункаў у Беларусі - з пункту гледжаньня Расейскай праваслаўнай царквы, гэта значыць адмоўныя адносіны да Рымска-каталіцкага касьцёлу і Грэка-катакліцкай (уніяцкай) царквы.

У агульных гістарычных працах, падручніках і энцыкляпэдыях непараўнальна шмат мейсца адводзілася савецкаму пэрыяду гісторыі Беларусі, як сама шчасьліваму ў жыцьці беларускага народу; тысячагадовая гісторыў Беларусі зьяўлялася толькі прадгісторыяй да сапраўднай гісторыі савецкай Беларусі.

Аднак савецкая канцэпцыя гісторыі Беларусі не была арыгінальнай. Уважлівы разгляд расейскай дваранскай і дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі Паўночга-Заходняга краю (як называліся Беларусь і Літва ў афіцыйных дакумэнтах XIX ст.) дае магчымасьць прасачыць больш глыбокія вытокі пазьнейшага камуністычнага падыходу да гісторыі Беларусі.

Цікавасьць расейскай афіцыйнай гістарыяграфіі да гістопрыі Беларусі асабліва ўзрасла пасьля задушэньня паўстаньня 1863 г. на Беларусі й Літве і ў сувязі з палітыкай генэрал-губэрнатара краю М. М. Мураўёва-вешальніка. Расейскі гісторык М. О. Каяловіч даказваў, што Беларусь была «іздревле істінно русскім краем». І. Д. Бяляеў, А.А. Папкоў, П. Д. Бранцаў даказвалі , што аснаўным злом для Беларусі былі каталіцкая царквба і палякі, а беларускі нацыянальны рух - гэта звычайная «польская інтрыга. І наогул расейскія цары выратавалі беларусаў, далучыўшы Беларусь да Расейскай імпэрыі.

Палажэньні М.О. Каяловіча і П.Д. Бранцава былі выкарыстаныя савецкімі камуністычнымі гісторыкамі В. К. Шчарбаковым і І. Ф. Лочмелем ( у канцы 30-х - пачатку 40-х гадоў) і іх шматлікімі пасьлядоўнікамі. Адрозьненьне савецкіх камуністычныхгісторыкаў ад расейскіх дваранскіх заключалася ў тым, што першыя, карыстаючыся марксісцка-ленінскай фразэалёгіяй, але згодна з вульгарна-сацыялягічнай схэмай гісторыі Беларусі, і разглядаючы гістарычны працэс скрозь прызму пераважна клясавай барацьбы, па-першае, паўтаралі канцэпцыю расейскіх дваранскіх гісторыкаў, закамыфляваную цытатамі «клясікаў» марксізму-ленінізму; па-другое ўвялі ва ўжытак фальсіфікаваную гісторыю Беларусі, накіраваную на распаўсюджваньне нацыянальнага нігілізму, фактычна адмову ад сваёй гісторыі. Нацыянальныя дзеячы і героі не згадваліся, затое расейскія цары (Іван IV, Пётр І) былі ўзьнесены да ўзроўню амаль народных герояў. У Беларусі працьвітаў культ расейскага палкаводца А. В. Суварава, які быў адным з душыцеляў паўстаньня 1794 г. у Беларусі і Польшчы, а потым атрымаў Кобрынскі маёнтак з тысячамі прыгонных сялян.

Такім чынам, у канцы 80-х гадоў беларуская гістарычная навука , падпарадкаваная камуністычным ідэолагам , знаходзілася ў стане глыбокага крызісу.

Новы пэрыяд у асьвятленьні гісторыі Беларусі пачаўся ў другой палове 80-х гадоў, калі ў выніку радыкальных грамадзка-палітычных і эканамічных пераўтварэньняў, а потым і абвяшчэньня сувэрэнітэту Беларусі, частка гісторыкаў распрацавала нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі і большасьць гісторыкаў далучылася да яе. Гэтая канцэпцыя ўлічвае прынцыпы, што забясьпечваюць навуковасьць дасьледаваньняў: дэпалітызацыю гістарыяграфіі; гуманістычныя, агульначалавечыя і нацыянальна-дзяржаўныя каштоўнасьці як крытэрый ісьціны і ацэнкі гістарычных падзей, фактаў і дзеячоў; аб'ектыўнасьць адбору і аналізу фактаў ; разуменьне айчыннай гісторыі як арганічнай часткі эўрапэйскай і сусьветнай гісторыі; параўнальна-гістарыны падыход з выяўленьнем спэцыфікі і агульных тэндэнцый у сусьветнай, рэгіянальнай і айчыннай гісторыі. У першй палове 90-х гадоў у Белатусі ўжо па-новаму пачала распрацоўвацца гісторыя краіны.

Аднак з 1994 г., калі да ўлады пруйшоў рэжым прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, ва ўнутраной палітыцы сталі ўсё больш праяўляццха старыя бальшавіцкія мэтады кіраваньня дзяржавай і грамадзтвам. Зноў гістарыная навука стала падвяргацца ціску з боку ўлады. Замяніўшы былую камуністычную дактрыну пралетарскага інтэрнацыяналізму, якая фактычна выкарыстоўвалася камуністычнымі ўладамі ў мэтах разбурэньня й ліквідацыі беларускай нацыі, ліквідацыі беларускай мовы і нацыянальнай культуры, растварэньня беларусаў у агульнай расейскай імпэрыі пад назовам Савецкі Саюз, новай (а фактычна старой з часоў царызму) ідэяй панславізму з тымі ж антынацыянальнымі , антыбеларускімі мэтамі, дзяржаўнае кіраўніцтва Бел;арусі (у якасьці стаўленьніка маскоўскай бюракратыі і КГБ) праводзіць курс на ліквідацыю дзяржаўнасьці Беларусі на карысьць Расеі, беларускай мовы - на карысьць расейскай, пазбаўленьне беларусаў гістарычнай сьвядомасьці, сваёй нацыянальнай культуры.

У канцы 90-х гадоў XX ст. пачаўся выпуск падручнікаў па гісторыі Беларусі для школ і ўнівэрсытэтаў зь вяртаньнем да старых догмаў і шаблёнаў дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіі, што адлюстроўвае афіцыйны погляд на гісторыю Беларуісі.

Цяпер сярод беларускіх гісторыкаў выявіўся падзел на дз.ьве аснаўныя групы: на тых, хто разглядае гісторыю Беларусі з нацыянальна-дзяржаўнага пункту гледжаньня і на тх, хто прытрымліваецца постсавецкага (прарасейскага) погляду, які фактычна адмаўляе самастойнасьць беларускага этнасу і яго нацыянальнай дзяржавы і разглядае гісторыю Беларусі як частку агульнай гісторыі Расеі. Другую групу гісторыкаў падтрымліваюць афіцыйныя структуры таталітарнага рэжыму, які ўсталяваўся ў Беларусі.

Такім чынам, у беларускай гістарычнай навуцы назіраецца вяртаньне шмат у чым да былых часоў камуністынай таталітарнай сыстэмы, пры якой гістарычную навуку выкарыстоўваюць як служанку ўлады.

---

Таронта, Бэры
Люты, 2001

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня